ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 51 (1805) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 23 СНЕЖНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.

# IX ДОМ

— Мала праўдападобна, што ў нашай дырэктар, пані **Іраіды Каськевіч,** знойдзецца хвілінка свабоднага часу, — сказала мне тэлефаністка Дома грамадскай апекі для недаразвітых дзяцей у Беластоку — Засцянках. — У нас цяпер рамонты, столькі працы, а яна працуе без намесніка, адміністрацыйна-гаспадарчы кіраўнік ужо некалькі месяцаў на бальнічным лістку...

Маймі гідамі па фінансава-мерытарычным панадворку Дома апекі з'яўляюцца фінансіст **Уладзіслаў Карпач,** шэфовая кадраў **Ніна Аксейчук** і старэйшая медсястра **Анна Рагінская.** Тут працуе 176 асоб (разам з філіялам у Баброваі). У Беластоку — 32 медсястры, 33 апякункі, 18 уборшчыц, 1 лекар, стаматолаг на 1/4 штата, 4 псіхіятры, інструктар ад заняткаў, 2 фізіятэрапеўткі, 7 выхавальніц... Не хапае ўборшчыц. Тое, што дамы грамадскай апекі перайшлі са службы здароўя пад Міністэрства працы і сацыяльных спраў, мае ўжо і будзе мець дрэнны ўплыў на кадравыя справы. Ужо некалькі дзён у руках кадровай новая табліца зарплат. Медсёстры, якія застануцца тут, таксама не будуць падлягаць пад службу здароўя і на гэтым вельмі многа страцяць.

Дамы апекі атрымоўваюць грошы з бюджэту, прыходзяць таксама дары ад канкрэтных асоб і фірмаў (прадпрыемстваў, школаў, цэркваў, інстытутаў, харытатыўных арганізацый), якія прысылаюць грошы, вопратку, цацкі, ласункі, яду, найчасцей пры аказіі ёлачкі і свята дзіцяці, а таксама дапамагаюць у рамонтах.

У беластоцкім доме апекі прабывае 220 хворых дзяцей, у Бабровай — 50. Падзелены яны на 11 аддзелаў (дзве групы дзяўчат і 9 — хлопцаў), у залежнасці ад ступені недаразвіцця — ад лёгкай ступені, праз сярэднюю да глыбокай. Павінны прабываць тут дзеці ўзросту ад 3 да 18 гадоў, а ёсць такія, каму ўжо за сорак, і няма куды далей іх перадаць з-за недахопу такіх пунктаў для дарослых.

— Дзеці выходзяць, тыя, што могуць, — на прагулкі, у філармонію, тэатр, ездзяць у лагеры, экскурсіі. Вароты адкрытыя, калючых дратоў і кратаў у вокнах няма. Гэта праўдзівы дом гэтых

(Працяг на стар. 4)








Зараз жа пасля выбараў у тэрытарыяльныя органы самакіравання пад прыцэлам беластоцкай салідарніцкай прэсы апынулася гміна Мілейчыцы: справа ў тым, што з 16 кандыдатаў Грамадзянскага камітэта (прасалідарніцкага) у гмінную раду ўвайшлі ў выніку выбараў 4 асобы. Выбары ў гміне Мілейчыцы выйграў Кааліцыйны выбарчы камітэт (ПСЛ, БГКТ, сельскагаспадарчы кааператыў). Падняўся страшэнны вэрхал: „Тыгоднік Беластоцкі" са з'едлівай сатысфакцыяй паінфармаваў сваіх чытачоў пра партыйны радавод радных ад Кааліцыйнага камітэта. Гміна Мілейчыцы сталася ў вачах салідарніцкіх публіцыстаў „цвярдыняй сталінізму" (ужо не ўспомню, у якой газеце трапілася мне першы раз гэтае выслоўе ў адносінах да Мілейчыц). Жару ў справу падсыпаў Віктар Стахвюк, каардынатар дзеяннаў Беларускага выбарчага камітэта ў камунальных выбарах 1990, сцвердзіўшы ў адным з інтэрв'ю нейкаму салідарніцкаму журналісту, што гэтыя выбары прайшлі для беларусаў на Беласточчыне наогул добра, і што, мабыць, вырашаў у іх беларускі акцэнт — шмат дзе беларусы ішлі на выбары як кандыдаты ад беларускіх выбарчых камітэтаў. Даючы прыклады, ён назваў і Мілейчыцы. Што і казаць, такой нагоды падкалупнуць беларускі рух салідарнікі не прапусцяць. Нягледзячы на тое, што ў Мілейчыцах выбарчы камітэт намінальна не быў беларускім. Нацыянальны склад ягоных удзельнікаў — гэта іншая справа. Пэўна, ён і быў беларускім, калі мець на ўвазе тую расплывістую беларускасць жыхароў Беласточчыны, што вынікае з „рускага" паходжання і веравызнання. А ў сэнсе нацыянальнай самасвядомасці — хто яго ведае... У артыкуле „Większość, która milczy" („Тыгоднік Беластоцкі", 36, 1990) Кшыштаф Савіцкі не мае сумненняў: сам Камітэт і радныя ад яго — гэта былыя камуністы і наменклатура, якая замацавалася ў Мілейчыцах на наступныя чатыры га-

(Працяг на стар. 6)

Вясёлых свят жадае „Ніва"



# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

— 18 —

У 1956 годзе была створана Кафедра беларускай філалогіі. Лекцыі ў нас вялі тады Васіль Тарасаў з Беларускага педагагічнага інстытута — літаратуравед і Мікалай Бірыла з Акадэміі навук БССР — мовавед. Я быў маладым асістэнтам. Час ад часу хадзіў на лекцыі Тарасава. Досыць хутка пераканаўся, што Тарасаў — чалавек з моцным палітычным хрыбтом, які сваю выкладчыцкую работу трактаваў як ідэалагічную місію. Вядучы практычныя заняткі, я ў найлепшай ступені не аспрэчваў таго, што гаварыў Тарасаў, але пачаў папаўняць яго лекцыі творчасцю тых пісьменнікаў, аб якіх ён увогуле не гаварыў. І так, у сшытках студэнтаў апынуліся інфармацыі аб Алесю Гаруну, Казіміру Сваяку і Францішку Аляхновічу. Тарасаў не цікавіўся зместам маіх заняткаў і таму я не меў ніякіх клопатаў. Аднак сталася так, што прыехалі да нас, бадай, на тыдзень, яшчэ два выкладчыкі з БССР. Былі гэта гісторык Абэцэдарскі і гісторык літаратуры Ларчанка. Абодва былі каларытнымі фігурамі. Абэцэдарскі — вельмі высокі, чорны з вусамі мужчына, з цыганскім тыпам прыгажосці. Ларчанка — невысокі і круглы таўсцяк. І вось нечакана абодва ўваліліся на мае заняткі. Пасядзелі, паслухалі, нешта там сказалі аб дружбе польскага і беларускага народаў і аб партыйнай прынцыповасці ў літаратуразнаўчых і гістарычных навуках. У канцы Абэцэдарскі, ліха яго ўзяло б, узяў ад студэнта сшытак і пачаў яго лістаць. І раптам заўважыў я на яго твары здзіўленне, перамешанае з абурэннем. Я заглянуў у сшытак і пабачыў, што там красавалася прозвішча — Алесь Гарун. Абэцэдарскі нервова лістаў сшытак. Хутка дайшоў да прозвішча — Казімір Сваяк. Бровы Абэцэдарскага высока ўзняліся і сведчылі аб максімальным абурэнні. Лістаючы далей сшытак, дайшоў ён да прозвішча Францішак Аляхновіч. Твар Абэцэдарскага пабагравеў і з вачэй пасыпаліся іскры.

— І што, гэта ўсё вы вывучаеце?!

Студэнты маўчалі, бо нічога не разумелі. Абэцэдарскі паясніў:

— Дык пытаю, ці вы вывучаеце Гаруна, Сваяка і Аляхновіча?!

— Вывучаем, — адказаў нехта нясмела.

— І гэта ўсё выкладае вам Тарасаў?!

Я зразумеў, што далей маўчаць не магу, і не без страху сказаў ціхутка:

— Інфармацыю аб гэтых пісменніках даў не Тарасаў, а я.

— А вам дазваляе на гэта праграма? — спытаў грозна Абэцэдарскі.

— Мы не маем праграмы, вучым без яе.

— Як гэта без праграмы? Без праграмы дык можна дакаціцца невядома ў якое балота!

Сітуацыя развівалася вельмі некарысна для мяне. Я ў ніякім выпадку не быў загартаваным у ідэалагічных баях барацьбітом і апынуўся ў праўдзівым тупіку.

І тут часова выратаваў мяне Ларчанка, сказаўшы, што аб гэтым трэба пагаварыць не на занятках, а пасля іх. На шчасце, зрэшты, канчаліся заняткі і студэнты выйшлі з аўдыторыі. Пасля заняткаў Абэцэдарскі накінуўся на мяне, як тыгр на кроліка. Гаварыў аб тым, што я прапаганду трох агентаў Пілсудскага і што гэта абазначае мой поўны адыход ад марксісцкай метадалогіі і ленінскай прынцыповасці. Я бараніўся няўмела і вяла. Гаварыў аб мастацкіх вартасцях творчасці Гаруна, Сваяка і Аляхновіча, а таксама аб тым, што не кранаў увогуле іх грамадскай дзейнасці. Крычаў ён, што якраз маё галоўнае злачынства заключаецца ў тым, што я не разаблачаў палітычнага твару гэтых злачынцаў.

Трэба сказаць, што я тут не праявіў належнага гераізму і вельмі спалохаўся. Абэцэдарскі і Ларчанка паехалі ў БССР, а я далей пабайваўся. Аднак, нічога дрэннага са мной не здарылася.

Прайшлі гады, і я чарговы раз апынуўся ў БССР. Аднойчы прафесар Ларчанка запрасіў мяне ў рэстаран. Выпілі мы многа і позняй ноччу, моцна выпіўшы, ішлі па вуліцы Мінска. Ларчанка моцным голасам гаварыў аб тым, што беларусы ахнулі, калі прыйшлі немцы і апублікавалі радаводы і сапраўдныя прозвішчы партыйных і савецкіх дзеячаў з цэнтральнага камітэта, урада, НКВД і прафсаюзаў. А потым нечакана спытаў, ці я памятаю візіт у Варшаве яго і Абэцэдарскага. Я сказаў, што памятаю.

— А ці ты ведаеш, што было далей?

— Не ведаю.

І тут Ларчанка расказаў мне, як Абэцэдарскі націскаў на яго, каб яны супольна паінфармавалі ЦК КПБ аб маіх злачынствах. Аднак ён як мог, так адводзіў Абэцэдарскага ад яго намеру.

— Я ведаю, што такое палітычныя ганенні, — гаварыў Ларчанка, — бо ў мяне таксама білі, як у бубен, калі я пасля вайны хацеў увесці Гаруна ў гісторыю беларускай літаратуры. А вы ж не толькі Гаруна але і Аляхновіча працягнулі.

Калі Ларчанка нарысаваў карціну таго, што магло са мной стацца, я ізноў спалохаўся. На шчасце, Абэцэдарскі ўжо не жыў і можна было не баяцца. Калі вяртаюся думкамі да гэтай справы, дык аб Абэцэдарскім думаю з пачуццём сораму, а аб Ларчанку з пачуццём гонару.

**А. Барскі**

# З мінулага тыдня

**Нацыянальныя меншасці ў прэзідэнцкіх выбарах падтрымалі Станіслава Тымінскага.** У другім туры выйграў ён з Лехам Валэнсай у амаль усіх гмінах з беларускім насельніцтвам. У Бельску-Падляшскім атрымаў ён 53 прац. галасоў, у Гайнаўцы — 63 прац., у гмінах: Бельск-Падляшскі — 71,1 прац., Белавежа — 63,8 прац., Гайнаўка — 94,3 прац., Гарадок — 76 прац., Дубічы-Царкоўныя — 93,4 прац., Кляшчэлі — 85,5 прац., Мілейчыцы — 72 прац., Нараўка — 85,6 прац., Нарва — 83,1 прац., Нурэц — 73,6 прац., Орля — 95,4 прац., Чаромха — 78 прац., Чыжы — 95 прац. У Сувальскім ваяводстве Станіслаў Тымінскі выйграў выбары ў трох гарадах-гмінах: Белая-Пішская (2175:1932), Рын (1261:806) і Сейны (1836:1769), а таксама ў 10 гмінах, напрыклад у Банях-Мазурскіх (1076:476), Дубенінках (826:429), Свентайне (927:433), Пунску (1235:355). У гэтых гмінах пражываюць літоўскія і украінскія нацыянальныя меншасці.

**Чарговы ўзлом у царкву быў учынены ў Вайнове** (гміна Руцянэ-Ніда ў Сувальскім ваяводстве). Злачынцы ўвайшлі ў храм, выламаўшы краты ў акне, і забралі дзесяць іконаў, вартасць якіх яшчэ не ўстаноўлена, на шкоду праваслаўнага прыхода.

**Таварыства прыяцеляў Гродна і Вільні рыхтуе святочныя падарункі** для польскай моладзі на Гродзеншчыне і Віленшчыне. Была аб'яўлена акцыя збору ласункаў, кніжак, вопраткі, абутку і цацак у касцёле св. Роха ў Беластоку

**У Гайнаўцы адкрыта раённае бюро Таварыства пацярпеўшых ад III Нямецкага Рэйха.** Змяшчаецца яно на вул. Каляёвай 2 (каля чыгуначнага віядука) і працуе ў аўторкі, чацвяргі і суботы ад гадз. 8 да 15. Жыхары гмінаў: Гайнаўка, Чыжы, Нараўка, Чаромха, Дубічы-Царкоўныя, Нарва, Кляшчэлі і Белавежа, зацікаўленыя членствам у Таварыстве, павінны з'яўляцца ў гайнаўскім бюро (а не ў беластоцкім). Прапановы аб кампенсацыі будуць прымацца да 31 сакавіка 1991 г.

**Усходні банк** ствараецца ў Беластоку. Будзе гэта акцыянерская суполка з прыватным капіталам.

**У Кракаве памёр Тадэуш Кантар,** адзін з найбольш арыгінальных творцаў польскай культуры XX стагоддзя, заснавальнік тэатра „Крыко-2".

**Салісты Гродзенскай філармоніі** выступілі ў камеральным канцэрце ў Беластоцкай ратушы.

**Народны тэатр чытальнікаў „Жывое слова"** Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. Горкага гасцяваў на Беласточчыне. Яго спектаклі маглі паглядзець жыхары Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і Беластока.



**ЧОРНАЕ ЧОРНЫМ, А БЕЛАЕ БЕЛЫМ**

**Колькі ж гэта ўжо гадоў даводзіцца чытаць на старонках „Нівы" пра штосьці, чаго звычайна няма. Справа ў г.зв. беларускіх ліцэях і наогул беларускіх школах на Беласточчыне. Маю надзею, што няма патрэбы дэталёва тлумачыць, у чым заключаецца розніца паміж школай з беларускай мовай навучання і школай з беларускай мовай як прадмет. Асабіста не бачу ніякай неабходнасці, каб надалей упарта называць польскія школы беларускімі толькі таму, што захавалі ў іх сям-там беларускую мову як адзін з прадметаў. Дадайма, што ў пачатковых школах яна нават неабавязковая.**

**У міжваеннай Польшчы таксама здараліся польскія школы, у якіх адным з прадметаў была беларуская мова, але нікому тады нават у галаву не прыходзіла, каб гэткія школы называць беларускімі. Прызнаюся, што я не ў сілах разабрацца, адкуль пайшла гэткая мода, каб чорнае называць белым. Магчыма, што бярэцца яна з веры ў магічную моц друкаванага слова.**

**Не ведаю, як у Бельску, але ў Гайнаўцы яшчэ летам г.г. красавала шыльда з наступным зместам: Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania.**

**Даруйце, паважаны спадар дырэктар і шаноўная Педагагічная рада, але гэта няпраўда. Мовай навучання ў вашым ліцэі напэўна ёсць мова польская, а не беларуская. Шыльду давядзецца памяняць. Разумею, што гэта Вам дадатковы кошт і клопат, але няма выхаду, паколькі Вы як педагогі дасканала ведаеце пра шкодны ўплыў няпраўды на выхаванне моладзі.**

**У Бельску г. зв. беларускі ліцэй мае за патрона, бадай для жарту, Браніслава Тарашкевіча. Жарты жартамі, мы аднак не забывайма пра наш маральны абавязак, абавязак аховы добрага імя гэтага выдатнага палітыка і вучонага. Лічу, што прыйшоў час, каб урэшце знайсці нейкі ганаровы выхад з гэтай, далікатна кажучы, далёкай ад ганаровай сітуацыі.**

**Добра вядома нам, што ў польскай прэсе таксама пішуць пра існаванне беларускіх школ. Здараецца, што нават урадавыя асобы паслугоўваюцца гэтымі пацёмкінскімі школамі ў якасці доказу пра славутую польскую талерантнасць і надзвычайную справядлівасць. Што датычыць польскай прэсы, дык беларусы мелі ўжо нагоду пераканацца не адзін раз (адносіцца гэта асабліва да „Gazety Wyborczej"), што пісанне абвяржэнняў раўназначна з дарэмнай стратай часу і паперы.**

**Для адлюстравання жывучасці міфа пра існаванне беларускіх ліцэяў у Польшчы прывяду ў якасці прыкладу наступнае здарэнне. У лютым г.г. на запрашэнне таварыства „Памост" у Лодзь з дакладам прыехаў Мікола Іваноў. На маё здзіўленне, той жа Іваноў заявіў, што ў Польшчы нібыта існуюць беларускія ліцэі. Калі я паясніў сабранай аўдыторыі, што гэта за беларускія ліцэі, быў ён выразна здзіўлены. Прызнаюся, што па сённяшні дзень я так і не ўпэўнены, ці ўдалося мне пераканаць Міколу Іванова. З ягонай карэспандэнцыі для радыёстанцыі „Свабода" (пра польска-беларускія адносіны) — мяркую, што ўсё ж не пераканаў. Ён, здаецца, надалей верыць таму, што пішуць у газетах, хоць без асаблівых цяжкасцей змог бы праверыць на месцы, г.зн. у Бельску або Гайнаўцы. Таму іменна лічу, што прыйшоў час, каб урэшце называць чорнае чорным, а белае — белым.**

**Спадару Мікалаю Панфілюку з Дубічаў-Царкоўных магу абяцаць, што пастараюся прызнаць прыватную ўзнагароду, калі ён назаве хоць адну — актуальна існуючую — беларускую школу на Беласточчыне.**

**МІКОЛА ДАВІДЗЮК**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка




## Юбілейнае трасенне

Як заўсёды, увосень беларускія студэнты ладзяць сваё свята „Атрасіны“ і прымаюць у рады студэнцкай сябрыны першакурснікаў. Сёлета мерапрыемству беларускіх студэнтаў споўнілася роўна 10 гадоў. Тады, увосень 1981 года, нашы студэнты толькі што заснавалі аргкамітэты Беларускага аб'яднання студэнтаў у Варшаве і Беластоку і рашылі, што трэба яднаць асяроддзе не толькі палітычным дзеяннем, але і масавай гульнёй. А тадышняму руху, што як што, але гуртаванне асяроддзя пакуль ананімных беларусаў было найбольш патрэбнае. Традыцыі не было, дык трэба было зрабіць першы крок. І зрабілі. З цягам часу мерапрыемства прыцягвала ўсё больш і больш людзей. На месца змагароў з пачатку васьмідзесятых гадоў прыйшлі іншыя, а зараз і гэтых замянілі маладыя.

І так залы станавіліся перапоўненымі, а беларускі характар імпрэзы не даваў аніякіх сумненняў. Недзе ў палове васьмідзесятых з'явіліся сталыя пункты атрасін: прысяга студэнтаў-першакурснікаў, традыцыйныя дзве часткі, г. зн. экзамен на студэнта і супольныя гульні — танцы і бадай той ужо традыцыйны факт, што першакурснікаў атрасаюць тыя, якіх трэслі на год раней. І так было сёлета.

**БЕЛАСТОК, 16.11.1990 г.**

Каля 19-ай гадзіны пачалі валіць маладыя людзі ў адзіночку і групамі ў беластоцкі клуб „Мазаіка“. Ужо пры ўваходзе было цесна, а ў сярэдзіне яшчэ цясней. Некалькі залаў і калідор былі перапоўнены. Але нічога, настрой быў бадзёры і мае прадчуванні аказаліся беспамылковымі. Пачыналася, праўда, крыху маруднавата, першакурснікаў трэба было клікаць, няраз выцягваць з натоўпу, хаця раней ім знялі па адным боце проста дзеля пазнейшага апазнання. Ну, і гэткіх паўбосых, перапалоханых, паставілі іх на сярэдзіну залы і пачалі „здзекавацца“ над імі: рэзалі пілой, кармілі гарчыцай цераз туалетную ракавіну ці яшчэ памазалі ўсялякай нечысцю, якой сапраўднаму студэнту пазбегчы цяжка ў яго штодзённым бурлівым маладым жыцці. Тады гэткіх памазаных прымусілі даць сваё слова на вернасць беларускім студэнцкім традыцыям і памкненням у залежнасці ад часу. Прысяга. Дарэчы, варта дадаць, што словы прысягі склаў гады тры таму Алесь Максімюк і зараз яны агульна прыняты. Сам аўтар увесь вечар паўтараў, што ягоныя словы несмяротныя — перажылі камуністаў, перажывуць і эндэкаў. Гэтая частка мерапрыемства закончылася ўручэннем членскіх білетаў новым „басаўцам“, а зрабіў гэта сам старшыня мгр Яўген Вапа. А потым пад гукі музыкі калектыву „Ара“ пачаліся танцы. Хто хацеў — танцаваў, хто спяваў, хто пры чарцы гутарку вёў з даўнімі ці новымі сябрамі. А было з кім, бо ў гэтым амаль чатырохсоценным натоўпе былі не толькі першакурснікі, не толькі арганізатары, не толькі сябры-студэнты, але і такія, для якіх часы навукі ўжо даўно закончыліся. Што ж, злачынцу цягне на месца злачынства, відаць, на студыях саграшылі яны найбольш.

**ВАРШАВА 23.11.1990 г.**

Тут было падобна, хаця крыху з меншым размахам. Не было музычнага калектыву, а толькі механічная музыка з магнітафона. Варшаўскія атрасіны ўзбагаціў міні-канцэрт Алеся Камоцкага — барда з Мінска і зварот-запрашэнне да супрацоўніцтва бізнесмена фірмы „Біяполь“ Яўгена Салагубы. Што ж, нашым жыццём пачынаюць уладарыць грошы і без іх ужо не пажывеш. Не было б варшаўскіх атрасін без спонсарства фірмы „Біяполь“. Культура патрабуе шмат грошай, а беларуская асабліва. Наконт ходу мерапрыемства дык можна сказаць, што варшаўскія сябры сцэнарый мелі больш акуратны. На пачатку нявінных, бязгрэшных першакурснікаў штораз спакушалі ўсялякім грахом, дарэчы даволі спакуслівa-прыемным, каб у канцы і тых мякішоў ды цвярдуноў загнаць у пекла, зразумела, студэнцкае. Хоч не хоч, але мусіш быць беларускім студэнтам. Ну, праўда, далей па-рознаму бывае, толькі частка застаецца на агульнай плыні студэнцкага руху, іншыя расплываюцца ў агульным моры студэнтаў, ці проста забаўныя імпрэзы толькі наведваюць. Але нічога, сёлетнія атрасіны як у Беластоку, так і ў Варшаве паказалі на тое, што ідзе новае, маладое пакаленне пераймае ад старэйшых сяброў стырно адказнасці за будучыню нашага Беластоцкага краю і прагрэсіўнай думкі наогул.

**Ю. Ляшчынскі**

Фота з архіва



*На здымках — „Атрасіны '86“. На ніжнім — аўтар у кампаніі чарцей.*

## Спаборніцтва ў Гайнаўцы

Тутака ў клубе „Гурнік“ адбылася нечаканая сустрэча. Вучні абодвух беларускіх ліцэяў і „басаўцы“ сабраліся на нештодзённае спаборніцтва: конкурсы і адгаданкі. У праграме мерапрыемства было мастацкае выкананне вершаў і прозы, танцаванне „Лявоніхі“ ды шмат якія спаборніцтвы, сцэнкі пантамімы і гонкі на час, дэманстрацыя спакуслівых грахоў моладзі. Шаноўная камісія, якую ўзначальваў спадар Ян Чыквін, быстрым вокам ацэньвала ўсе дасягненні і паражэнні выступаючых. Што мяне найбольш уразіла — дык гэта паўсюднае ўжыванне беларускае мовы і апладысменты для сваіх камандаў, ды, што тут гаварыць, добрая падрыхтоўка ўсіх — апрача студэнтаў. Таму і вынік такі.

Перамаглі вучні з Бельска, затым Гайнаўка, а ў канцы — па традыцыі студэнты з БАС. Іх жа імпрэза адбываецца ўжо трэці раз, і трэці раз БАСаўцы на трэцім месцы. Мо праз год будзе інакш. Да сустрэчы!

**Ю. Ляшчынскі**



### АД АПЛАДЫСМЕНТАЎ РУКІ ПАПУХНУЦЬ!

У сваім пахвальным артыкуле „Брава, Куптэль“ („Ніва“ № 47 ад 25 лістапада 1990 г.) М. Панфілюк піша, што я плытка „плаваю“ ў сённяшнім бурлівым часе і нічагусенька не разумею ў палітычных справах. Паводле Панфілюка, я вучылася на адной вялікай мане гісторыі і цяпер гэта ўнушаю чытачам „Нівы“.

Не трэба тут гісторыі, каб ведаць, як жылося людзям. Колькі я наслухалася ад старэйшых! Няўжо яны хлусілі, як падказвае Панфілюк?! Яны гаварылі шчырую праўду. Капіталізм гэта трагедыя для людзей. Зноў дзяцей будуць радзіць дома (бальніцы платныя, а не кожны будзе мець грошы, каб заплаціць) і ўміраць пры родах. Колькі цяпер бывае пры гэтым розных камплікацый і, каб не лекарская дапамога, што было б? Цяпер і па два месяцы ляжыць у бальніцы цяжарная, каб данасіць цяжарнасць. Каб так каліць, то адразу смерць. Ніхто не трымаў бы яе ў бальніцы некалькі тыдняў або месяцаў, каб шчасліва скончылася цяжарнасць і нарадзілася здаровае дзіця. А колькі людзей каліcь памірала ад сляпой кішкі!

Як толькі ўсе школы будуць платныя — то колькі будзе анальфабэтаў?!

Што датычыць беднаты ў Расіі, дак чаго, паводле Панфілюка, давёў „хвалены“ камунізм, гэта зусім не так. Людзям жылося занадта добра. Роскаш знойдзе рогі, а нэндза — ногі. Так выйшла і цяпер. Толькі як дойдзе да таго, што на Захадзе, то многія будуць наракаць, але будзе позна. Як у Расіі быў капіталізм і завальвала яна свет збожжам, то многім хлеба не хапала. Колькі людзей было босых і галодных, непісьменных!

Галышы і абарванцы, паводле Панфілюка, то не людзі, бо гэта яны давялі Расію да руіны. Каб не гэтыя галышы ды абарванцы, то невядома, ці Панфілюк закончыў бы нейкую школу і ці быў бы пісьманосцам. А цяпер за гэтай панскай улады невядома, ці ўтрымаецца на працы. Усё часцей гаворыцца, што калі хтось мае гаспадарку, то будзе звольнены з працы. Панфілюк мае гаспадарку (памятаю, як на перадапошнім з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“ спяшаўся сушыць сена) і невядома, як будзе, калі выйдзе ўказ, каб усіх працуючых гаспадароў вярнуць на гаспадаркі...

Калі зробяць так, што ад сялян не будуць увогуле прымаць малака, то прапала. Хто жыве каля горада, той панясе на рынак прадаваць малако, а калі хто жыве далёка, той зноў будзе рабіць сыры ды масла і вазіць веласіпедам або ісці пехатой, каб прадаць. Цяпер ніхто не „выскачыць“, як за народнай улады. Не ведалі, у што апранацца і што есці.

Цікава, што будзе, калі Панфілюк падобным, як ён, будзе біць брава і ў яго рукі папухнуць? Ці знойдзе лякарства ад пухляціны?..

**Аўрора**




**Паважаная рэдакцыя!**

Дапамажыце мне наладзіць перапіску з суайчыннікам-равеснікам з Польшчы. Хачу перапісвацца з хлопцам ці дзяўчынай, якія заклапочаны лёсам нашай Бацькаўшчыны, цікавяцца яе гісторыяй і культурай.

Сціcла аб сабе: 1968 год нараджэння, скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут, працую інжынерам, маю доўгі шэраг хобі: філатэліст, калекцыянер геаграфічных мапаў і атласаў, вывучаю англійскую мову, вельмі цікаўлюся гісторыяй, геаграфіяй і этнаграфіяй, асабліва Беларусі.

Мой адрас: **г. Мінск, Даўгінаўскі тракт, 54а, кв. 6. Беламу Аляксандру.**



## Свойскія малюнкі



*Драўляны касцёл у Мілкавіцах-Мацьках.*

*Мал. У. Петрука.*

З народнай абраднасці

# ЗАРУЧЫНЫ

У абрадзе заручын маладых пар веравызнання праваслаўнага і майсеевага ёсць падабенства, але таксама і розніца. У праваслаўных заручынах мала што змянілася, так што і не дужа трэба пра гэта пісаць... А вось як выглядае гэты абрад у яўрэяў — ведаюць толькі адзінкі. Я напішу пра заручыны адной маладой яўрэйскай пары ў Орлі. Пра іх расказвалі мне Антаніна Война і Наталія Камарчук, жанчыны, якім ужо пад восемдзесят або і таго болей.

Заручыны Хінзы Вайнштайн, дачкі прадпрыемцы Сраля Вайнштайна (меў кафлярні ў Орлі і Мілейчыцах) з Довідам Рабіновічам, сынам арлянскага аптэкара, адбыліся ў доме дзяўчыны. Былі бацькі маладых, была сястра Хінзы Роза, а нават прыехаў яе дзядзька з Камянца Літоўскага. Абрад быў вельмі ўрачысты. Малады Довід купіў пярсцёнак і пры ўсіх уручыў яго выбранніцы. Яны сталі нарачонымі. Гэта значыла, што праз год яны пажэняцца. Аб чым маглі гутарыць пры такой нагодзе — цяжка з упэўненасцю сказаць, але не абмінулі, несумненна, справы будучага шлюбу і планаў на супольнае жыццё. Довід меў дыплом фармацэўтыкі, калі яны пажаніліся, абсанавалі аптэку ў Кляшчэлях, потым нейкі час жылі ў Ломжы і там таксама мелі аптэку. Там застала іх вайна.

Абрад абрадам, але што злучае людзей у пару на ўсё жыццё? Адказ просты: любоў. Адкуль з'яўляецца любоў? Адказ таксама як бы просты: ад прыгажосці... Але яго трэба пашырыць такім паясненнем: у натуры чалавека ёсць два складнікі — эрас і логас, і яны існуюць праз усё жыццё. Бывае такі моцны эрас, што любоў становіцца неразумнай... Адна хваля размовы з кімсьці трэцім можа ўсё перавярнуць у душы чалавека. І так, яна мае мужа, ён мае жонку, але ў іх душах трэція асобы... І рэлігія, і абрады, і прысягі — гэта адпор эрасу, і тады логас набірае сілы. Але бывае, што логас сілы і не набярэ...

**М. Ляшчынскі**

P.S. Камусьці можа падумацца: а чаму я пішу пра яўрэйскія абрады, а не пра свае? Прытадаю тое, што калісьці сказаў Сакрат (грэцкі філосаф). Калі Сакрата пыталі, ці ён грэк, ён адказаў: я — чалавек.

# ІХ ДОМ

(Працяг са стар. 1)

дзяцей. Часам выходзяць самі штосьці купіць у краме, часам хто-небудзь западзенеца, як гэта бывае ў сям'і, — кажа пані Рагінская. — Стараемся па меры сваіх магчымасцей зрабіць іх самастойнымі, уводзіць іх у асяроддзе, у грамадства. Ці хтосьці з іх будзе жыць нармальным жыццём? Наша апякунчае прадпрыемства (вайсковая часць) устанавіла кніжачку на кватэру для адной нашай выхаванкі, Елі, у якой сярэдняе недаразвіццё. Ці яна зможа пасля жыць самастойна? Бывалі выпадкі, калі нашы выхаванцы выйшлі ў жыццё, ёсць у іх свае сем'і... Мы стараемся, вельмі рэдка ёсць надзея на большую папраўу...

У працаўнікоў, якія займаюцца дзецьмі, дасканалыя кваліфікацыі і многа сэрца да гэтай працы. Аі займацца імі трэба днём і ноччу. На лягчэйшых аддзелах ноччу на адным дзяжурстве на два аддзелы (адзін паверх — 36 асоб) ёсць адна апякунка або медсястра, на цяжэйшых, якія налічваюць 18—19 асоб, цэлы час дзяжурства трымае медсястра. Дзеці вельмі кахаюць сваіх апекуноў, чакаюць „сваю паню“. Працаўнікі гэтыя мусяць выказваць вялікую любоў, дабрату, разуменне; каб тут працаваць — трэба кахаць гэтых дзяцей. Праца ў такім доме вымагае вялікай псіхічнай і фізічнай сілы, стойкасці, цярплівасці. Якое можа даць задавальненне апекуну, калі зможа навучыць нечаму дзіця, з якім амаль няма кантакту! А людзі адыходзяць...

— Можа, гэта ўплыў зарплат? Як можна так дрэнна аплочваць такую адказную, цяжкую працу?!

— Будзе яшчэ горш. Нашыя медсёстры атрымоўвалі да гэтай пары дадатак за працу ўначы 65 прац. — будуць цяпер атрымліваць толькі 20 прац.; уведзены толькі 10-працэнтны дадатак за другую змену, — кажа пані Аксейчук. — У нас працуюць найчасцей па 12 гадзін. Да гэтай пары медсёстры атрымлівалі 45 прац. дадатку за працу ў нядзелі і святы, а ён будзе ліквідаваны. Медсёстры не захочуць працаваць на такіх умовах, адыйдуць працаваць у бальніцы. А ёсць жа тут медсёстры з вялікім стажам, прафесіянальна дасканалыя. Што ж без іх можна будзе зрабіць?

Я іду з паняй Рагінскай паглядзець аддзелы. На калідоры стаіць столік, каля яго маці з дачушкай, якія прыехалі ў госці да хворага брачіка. У гэтым доме дзеці не толькі з Беластоцкага ваяводства. Ідзем, дзеці радасна вітаюцца з медсястрой. Радасць выказваюць па-рознаму — кідаюцца ёй на шыю, цалуюць па руках, ляпаюць па плячах, сцёгнах, пішчаць. Таксама радасна вітаюць і мяне.

Сценгазеткі са здымкамі, дываны — чыста, прыемна. З кожнага аддзела перадабедні гоман. Калідор, з аднаго боку — спальні дзетак, з другога — дзённыя залы. Пётрусь і Томэк з прадшкольнай групы хочуць расказаць мне вершык аб мішку, які не хоча даць лапу, праслухоўваюць з захапленнем свае галасы з „магніхафона“. Запрашаюць мяне, каб я наведала іх „пасля абедку“ і на ёлачку. У гэтай групе пяцёра дзяцей з адной сям'і, у якіх недаразвіццё відаць адразу на тварыках (а яшчэ адно ў гэтай сям'і — у Доме апекі ў Баброваай, і дома сёмае, таксама недаразвітае). Што ж з бацькамі?..

Наступная група — дзеці, узбуджаныя рухова. Тут хлопчыкі з пялюшкамі пад барадою чакаюць абеда. Толькі двое з іх умее сказаць некалькі паасобных слоў, іншыя толькі выдаюць нейкія гукі. Не ўмеюць паведаміць аб фізіялагічных патрэбах.

— Цяжка нам ідзе, памаленьку, — кажа пані Тарэса. — Вучым іх самастойна есці. На дзяжурстве тут мусяць быць пастаянна дзве або тры асобы (апякункі і медсёстры). Дзеці вельмі вёрткія, кожную мінуту могуць адзін другога пакрыўдзіць...

— Стараемся іх як найлепш навучыць мануальнай спраўнасці, праз працу, — пераходзім на аддзел, цудоўна аздоблены вышыўкай. Тут жыве 21 дзяўчынка (два месцы свабодныя). Ёсць дзяўчыны, якія працуюць у май-

# ПАТОКА — чалавек-легенда

Чвэрць стагоддзя назад (29.XII. 1965 г) адыйшоў ад нас Ян Патока — чалавек незвычайны. У Белавежы ведалі яго ўсе, быў таксама шырока вядомы па-за межамі Белавежскай пушчы. Пра Патоку пісалі пісьменнікі, журналісты, пра яго рэалізаваліся радыёперадачы, паяўляўся ён і ў фільмах, якія здымаліся ў пушчы. Патока — дасканалы знаўца жыцця лясной звярыны, хвалюючы расказчык і экскурсавод — выклікаў усеагульную пашану, захапленне, а ў некаторых і зайздрасць, што не валодаюць усімі тымі прыкметамі, якімі вызначаўся белавежскі ляснік.

Праўду кажучы, славы Я. Патока дачакаўся толькі пад старасць. Вярнуўшыся ў 1955 г. з Расіі, дзе адбываў 10-гадовы прысуд у лагерах працы, бязвінна асуджаны ў 1944 г., атрымаў пасаду пачаткова звычайнага наглядчыка, потым старэйшага наглядчыка-гадоўцы ў Белавежскім нацыянальным парку. Апекаваўся чарадой зуброў на свабодзе. З зубрамі меў дачыненне яшчэ ў даваенны час. Будаваў агароджы першым штукам, якія былі прывезены ў пушчу ў 1929 г. пасля 10-гадовай іх тут адсутнасці. Зубрагадоўцам працаваў да 1935 г., потым перайшоў на паляўнічую службу і на ёй быў да выбуху II сусветнай вайны. У гэты час умацоўваў і пашыраў веды пра лес, звычаі лясной звярыны і наогул пра прыроду, якімі аваладваў будучы яшчэ хлапчуком, падчас наведвання свайго дзядзькі Піліпа з Каралёвага Мосту, што на паўднёва-ўсходняй ускраіне Белавежскай пушчы. Сам Ян Патока ураджэнец Каменца. У Белавежу прыехаў і пасяліўся тут у 1923 г., пасля адбыцця вайсковай службы. Ажэніўся з Кацярынай Андрасюк, „ажаніўся" адначасова з безупыннымі спрэчкамі і судамі — прычынай іх быў дом брата жонкі. І хаця ў 1939 г. Патока пабудаваў свой уласны, вялізны дом, жніво сямейных непаразуменняў збіраў яшчэ доўга (між іншым, у лагерах працы ў СССР). Як жа люты бывае лёс!

Будучы егерам, Я. Патока ўдзельнічаў часта ў імпазантных паляваннях, якія наладжваліся ў Белавежскай пушчы прэзідэнтам І. Масціцкім для знатных людзей з цэлай Еўропы. Сутыкаўся непасрэдна з многімі госцьмі, якіх іншыя ведалі толькі з газет ці кінахронік. Свае назіранні выкарыстаў праз многа гадоў пазней, калі ўжо быў экскурсаводам. Як працаўніку Белавежскага нацыянальнага парка, на дадатак надта красамоўнаму і наогул цікаваму чалавеку, начальнікі даручалі яму абслугоўваць найбольш важных гасцей, дэлегацыі, наведваючыя парк. Здараліся нярэдка сярод іх міністры, паслы, палітыкі. Патока любіў пераплятаць свае расказы рознымі анекдотамі, аўтэнтычнымі гісторыямі. Найбольш падабаліся менавіта яго апавяданні пра ўдзельнікаў паляванняў Масціцкага. Калі спыняў апавяданне, браў у руку сваю трубку — і лес напаўняўся паляўнічымі сігналамі. Патока ведаў іх усе, а таксама ведаў розныя іншыя паляўнічыя звычаі.

З зубрамі жыў як з людзьмі, сваімі суседзямі. Умеў размаўляць з імі, без боязі хадзіў сярод іх — гэтай „штучкі" менавіта ніхто дагэтуль не паўтарыў.

Чуткі пра незвычайнага лесніка вельмі хутка разышліся па ўсёй Польшчы. Многія спецыяльна прыязджалі ў Белавежу, каб з ім пазнаёміцца. Выязджалі ўжо як добрыя сябры Патокі. Належалі да іх, між іншым, Уладзімір Пухальскі, Юзэф Рыбінскі, Анджэй Мулярчык...

Памёр Ян Патока неспадзявана, на 66 годзе жыцця, пад час афармлення справы пераходу на пенсію. Пахаванне адбылося 31 снежня 1965 г. У Белавежы (на вул. Трапінка № 7) жыве дачка Я. Патокі — Мар'я Навацкая. Яна старанна, клапатліва перахоўвае памяткі па сваім бацьку, многія з якіх маюць ужо гістарычную вартасць.

**ПЁТР БАЙКО**

Рэпрадукцыя здымка Артура Дамашэвіча



стэрні, але пераважна займаюцца „на групе" — вышываюць, вяжуць на прутках. Тут ёсць і зусім дарослыя жанчыны, якіх трэба было б аддаць у адпаведны дом апекі. Да глыбокага і значнага недаразвіцця даходзяць часам і іншыя захворванні.

— Стася — гэта наша гаспадынька! — абдымае медсястра жанчыну. — А гэта — наш манголік! — маленькая Анечка ўскочыла ёй на шыю, апляла бёдры худзенькімі, як вужы, нажанятамі.

Пераходзім на наступны аддзел, абвешаны дзяўчынкамі.

— Мы не маем такога вопыту, як чацвёрты аддзел, — кажа выхаваўца, пані **Яніна Гук.** — У студзені будзе пяць год нашага існавання як групы, але ёсць у нас ужо свае радасці. Анечка пачала прыгожа гаварыць. Агнізя, пахваліся: гэта твая такая прыгожая вышыўка! Праца выхаваўцы вельмі цяжкая, і не зважыш яе ці памераеш, і цэлымі гадамі можна чакаць вынікаў. Паглядзіце— гэта Эдытка. Калі прыйшла да нас, не было з ёю кантакту. Не сказала нават слова „мама". Калыхалася толькі пад сцяною, аж мела пааббіваны ад гэтага пазваночнік (да сёння ёсць знакі!). Было вельмі многа канфліктаў з ёю ў групе. І аднойчы, калі мы гулялі ў лесе, яна ўцякла ад нас, гуляла сама, збірала пруцікі. Падыйшла да мяне і кажа: „Пронд". Першае слова, якое сказала! І так памаленьку, памаленьку... Вось бачыце: вышывае. Яе штодзённае цяпер заданне — складванне піжамак, а раней не рэагавала нават на „дай" ці „ідзі". Вось такія мае радасці, а працую тут 18 год. Бываюць дні, калі ўжо нічога не хочацца, толькі адыйсці згэтуль, але калі пабачыш, як да цябе махаюць праз акно, чакаюць, цешацца!..

Ёсць яшчэ такі аддзел, дзе працуюць толькі медсёстры. Глыбокі стан недаразвіцця. Узрост — ад 6 да 36 гадоў. Гэтых хлопцаў трэба карміць, апранаць, падымаць, саджаць... Няма з імі ніякага кантакту. Адно толькі дзіця можа нешта сказаць. Двое ўжо толькі ляжаць...

Тут іх дом, іх сям'я — апека, сэрца, уменне ім дапамагчы.

— Колькі гэта каштуе? Не гавару пра духоўную працу, — пытаю сацыяльнага працаўніка, **Мар'ю Мількамановіч.**

— Аплату акрэслівае дырэктар Дома апекі. А гэта столькі, колькі каштуе харч — гэта (на сёння — 28.XI.1990) — 210 тысяч злотых у месяц. Утрыманне, дагляданне і апека пакрываюцца з дзяржаўнага бюджэту — усё каштуе больш мільёна. Бацькі, якія аплачваюць харчы дзіцяці, атрымліваюць на рабоце дадаткі „сямейныя" і „на дагляд" гэтых хворых дзяцей. Некаторыя бацькі, фактычна, наведваюць іх, даглядаюць, прыносяць падарункі, забіраюць часам дахаты, але вельмі многа такіх, якія ўвогуле не цікавяцца іх лёсам. Высланая карэспандэнцыя вяртаецца. Часам мы самі мусім падпісваць згоду на аперацыю ў бальніцы. Ад 1 снежня ўзрастаюць гэтыя ўспамогі. Бацькі проста... зарабляюць часта на гэтых бедных дзецях! Сямейны дадатак патрэбны, напрыклад, на аплату праездаў да дзіцяці, на пакупку чагосьці для яго, але дадатак „на догляд" павінен ісці адразу на дом апекі, для тых асоб, якія сапраўды гэтым дзіцём апякуюцца — медсясцёр, сацыяльных працаўнікоў, абслугі... Бацькі бяруць ад дзяржавы грошы — а сцягнуць ад іх часам вельмі цяжка. Часам трэба быць проста следапытам, шукаць, дзе яны працуюць! Лёгка аддаць сваё дзіця на плечы грамадству! А часам па дваццаць гадоў да свайго дзіцяці не заглянуць, а толькі поштай высылаюць патрабаванні, каб ім прыслаць пасведчанне, што ёсць у яго такое дзіця, каб пасля грошы атрымаць! З людзьмі вясковымі добра можна дагаварыцца, вытлумачыць ім, а калі прыйдзе такая пані, элегантная настаўніца, зрэшты, якая сваё дзіця дахаты за цэлую яго пабыўку ў Доме апекі запрасіла толькі на пяць дзён, а грошы за яго бярэ — усе дадаткі і 1/4 рэнты — то невядома, як на цябе гляне звысока! Жыве ў Супраслі, а да Засцянкаў не даедзе! Пасля 16 гадоў да Д. прыйшла маці і кажа: „Калі я яго вам аддавала, то ён „мама" гаварыў, а што вы цяпер яму зрабілі ў гэтым доме?!"

**Міра Лукша**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 31 —

Апрача гэтага ўсяго, сялянам моцна дакучылі падводы. Апрача падводаў для вайсковых мэтаў, якія рэквіравалі для сябе паасобныя падраздзяленні, кожны войт у гміне заказваў некалькі бясплатных падводаў удзень т. званых „стоек", у распараджэнне паліцыі, жандармерыі і т.п. Насельніцтва было вынішчана вайной і рускімі ды нямецкімі рэквізіцыямі. І сяляне, і коні былі неабходнымі для ўжо і так спозненых палявых работ. Лёгка сабе ўявіць горыч, якая мусіла ўзнікнуць сярод тых, каго вызначылі ў падводы. Асабліва тады, калі аказалася, што былі яны непатрэбныя. Беларусы хацелі моцнай улады. Аднак лёгкадумства, самаволя, а часта і злая воля, а таксама бяздарнасць польскіх улад, якія былі няздольныя да таго, каб унікнуць у інтарэсы мясцовага насельніцтва, усё гэта яўна пярэчыла адозве галоўнакамандуючага, узбуджала і знеахвочвала да палякаў, якія на пачатку трактаваліся як браты і вызваліцелі.

Польскія ўлады сталіся непапулярнымі не толькі ў народных масах. Беларускую інтэлігенцыю абураў стасаваны адміністрацыйнымі ўладамі прыгнёт адраджэння беларускага нацыянальнага духа. Праследавалася шляхам рэвізіі і судоў штодзённая беларуская газета „Беларусь". У Мінску ўлады не дазволілі паставіць п'есы беларускіх пісьменнікаў Купалы, Каганца і іншых.

Размешчаныя на Беларусі пляцоўкі „крэсавай стражы" і „камітэта абароны крэсаў" вялі яўную прапаганду ў карысць далучэння Беларусі да Польшчы. Занадта гвалтоўныя і беспардонныя рэвіндыкацыі каталіцкіх і нямецкіх касцёлаў, якія больш чым сто гадоў таму назад былі цэрквамі, выклікалі горыч і незадавальненне сярод праваслаўнай большасці беларусаў.

Польская палітыка ў адносінах да насельніцтва з новазанятых тэрыторыяў не была паслядоўнай і планавай. З аднаго боку, праследаваліся праявы нацыянальнай свядомасці, а з другога боку — пасля канферэнцыі Паўла Алексюка і праф. Іваноўскага з маршалам Пілсудскім — дазволена арганізаваць пачаткова ў Вільні, а пасля ў Мінску „Беларускую вайсковую камісію", мэтай якой было стварэнне беларускай нацыянальнай арміі, якая пад польскім камандаваннем мела змагацца з бальшавікамі.

Польскія ўлады стараліся стварыць школьніцтва. Створаная беларускімі дзеячамі „Беларуская школьная рада" арганізавала дзве прыватныя беларускія гімназіі: адну ў Мінску, другую ў Вільні і некалькі дзесяткаў пачатковых школ. Аднак у галіне школьнай палітыкі не было паслядоўнасці: у школах мінскай акругі польскія ўлады на працягу некалькіх месяцаў тры разы змянялі мову навучання. Пачаткова дазволілі навучаць па-беларуску, пасля загадалі вучыць па-руску, у канцы — па-польску.

Адозва галоўнакамандуючага ад 22.IV.1919 года заяўляла, што польскія войскі прыносяць Беларусі свабоду. Заняццё Мінска разбудзіла вялікія надзеі на братнюю дапамогу Польшчы. Беларусы цешыліся вы-

(Працяг на стар. 7)

# Іх папараць-кветка або у амерыканскіх беларусаў

### 3. „ХАТКА“ БАРТУЛЁЎ

— Вось такая наша хатка, — сказала Вера з чароўнай усмешкай, абводзячы мяне па сваіх пакоях.

Дом спадарства Бартулёў, які звонку выглядаў даволі скромна — быў з чырвонай цэглы, усяго два паверхі плюс два гаражы побач — унутры ўражваў сваім хараством. Было відаць, што гаспадыня густуецца ва ўсходнім стылі: аж пяць пакояў было абсталявана тут на „чыста“ кітайскі лад. Амаль усе рэчы, якія знаходзіліся ў гэтых пакоях, былі вышуканы ў кітайскіх магазінах, аднекуль прывезены або выпісаны з Кітая. А драпіроўку з матэрыялу і характэрныя вокны гаспадыня з гаспадаром рабілі ўласнымі рукамі, вядома, па праекту гаспадыні.

Адзін з пакояў быў, аднак, „чыста“ беларускі. У ім Вера сабрала беларускія сувеніры з дрэва, саломы, гліны, розныя вышыванкі — ручнікі, падушачкі, пасцілку, карціны беларускіх мастакоў і фатаграфіі вядомых беларускіх пісьменнікаў. Але вісяць тут таксама здымкі дзяцей Бартулёў — Ані і Антона, яны ў беларускіх нацыянальных касцюмах, а сфатаграфаваны былі, відаць, у час выступленняў у беларускай самадзейнасці.

Калі купілялі гадоў дзесяць таму назад у Манхасэце гэту „хатку“, як пяшчотна называе яе Вера, было ў ёй усяго шэсць пакояў. Вырашылі, што тэрасы хопіць, калі яна будзе ўдвая меншая, і на яе месцы дабудавалі яшчэ адзін эксклюзіўны пакой — з камінам, з вакном на столі, праз якое відаць неба, з вялікімі вокнамі ў сценах, праз якія даслоўна ўбіваецца ў сярэдзіну зелень з тэрасы. Са старога калідорчыка зрабілі яшчэ адзін пакой, які цяпер Вера назвала „беларускім“. Разбудавалі таксама кухню, далі ёй шкляныя дзверы, з якіх адразу можна выйсці на тэрасу.

Там, дзе быў калісьці пограб пад домам, Бартулі абсталявалі яшчэ два вялікія памяшканні. Абодва — рабочыя. У адным стаяць дзве пральныя машыны. Адна з іх мые бялізну, другая — сушыць. Тут жа стаіць прасавальная дошка і адбываецца прасаванне бялізны.

У другім памяшканні стаяць дзве канапы, ляжаць дываны (праўда, тут амерыканскія, а не персідскія), але і гэта рабочы пакой. Бо тут знаходзіцца Верына швейная машынка, а побач з ёю — манекен; тут гаспадыня шые і праектуе, раскладаючы вопратку на дыванах ці вешаючы на манекене, тут робіць сабе прымерку перад вялікім люстрам. Калі я ўвайшла ў гэты пакой, на манекене якраз вісела новая, доўгая, чорна-залацістая вячэрняя сукенка з нашыванымі цэкінамі, якую Вера падганяла пад сваю фігуру, бо ж у праграме беларускага з'езда ў Клійлендзе быў, натуральна, і баль.



Вера найбольш любіць адпачываць у „новым“ пакоі.

# СКАРЫНІНСКІ ВЕЧАР У ВАРШАВЕ

**3 снежня 1990 г. у Доме савецкай навукі і культуры ў Варшаве адбыўся вечар з нагоды 500-годдзя з дня нараджэння беларускага першадрукара Францыска Скарыны.**

**З кароткім і змястоўным нарысам (на польскай мове) аб жыцці і дзейнасці аўтара „Малой падарожнай кніжкі“ выступіў Адам Мальдзіс. Прафесар падкрэсліў значэнне гэтага асветніка для развіцця многіх сфер беларускай культуры. Затым голас узяў Аляксандр Петрашкевіч, намеснік галоўнага рэдактара выдання энцыклапедычнага даведніка „Францыск Скарына і яго час“ (1988). Прамоўца звярнуў увагу на некаторыя цікавыя дэталі з жыцця і дзейнасці Скарыны, напрыклад, што ёсць падставы меркаваць, што гэты беларускі асветнік прымаў удзел у складанні І Статута Вялікага княства Літоўскага (1529), а таксама, што быў асабіста знаёмы з Міколам Гусоўскім — аўтарам „Песні пра зубра“.**

**У другой і апошняй частцы сустрэчы выступіў з канцэртам ансамбль (у вельмі прыгожай народнай вопратцы) Беластоцкага аддзела БГКТ пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы, у выкананні якога прысутныя пачулі беларускія, украінскія і рускія песні.**

**ЯНІНА ТРАЧУК**

**(Працяг са стар. 1)**

ды. Артыкул гэты даволі рэзкі — аўтар прадстаўляе перадвыбарчую атмасферу ў Мілейчыцах як стан псіхалагічнага тэрору, выкліканага „сіламі казарменнага камунізму“. І ці ж можна здзіўляцца, чытаем між радкамі, што ў такіх абставінах Грамадзянскі камітэт прайграў, нават мабілізуючы ў свае рады дзвюх „матушак“ — жонак праваслаўных святароў у гміне? Ад Грамадзянскага камітэта прайшлі каталіцкія кандыдаты, выбраныя жыхарамі каталіцкіх вёсак. Мілейчыцы бачацца аўтару амаль што пагрозай новаму дзяржаўнаму ладу ў Польшчы, бо там не кахаюць „Салідарнасць“, а значыць, і Польшчу таксама... Бо, бачыце, дзеці ў школе спяваюць нейкі ананімны вершык („напісаны, хіба, нейкім маніякам“), у якім „прымітыўным, але хітрым“ спосабам здзекваюцца з нацыянальных і дзяржаўных вартасцяў. А дырэктар школы Мікалай Блашчук не рэагуе нібыта...

Гэты даўгаваты ўступ спатрэбіўся мне, каб перайсці да асноўнай справы, якую хачу крануць у сённяшнім тэксце, а менавіта справы дырэктара Мікалая Блашчука... Прызнаюся, у гэтай справе шмат што для мяне няяснае, не ўсе патрэбныя інфармацыі ўдалося мне здабыць, не ўсе акалічнасці высвятліць... Але па парадку...

Мікалаю Блашчуку з днём 31 жніўня 1990 канчалася намінацыя на пасаду дырэктара школы ў Мілейчыцах. 20 чэрвеня на пасяджэнні Педагагічнай рады ў школе настаўнікі ў дэмакратычных выбарах, у тайным галасаванні, выбралі




М. Блашчука дырэктарам на далей: 18 галасоў за, 5 — супраць. Гэтае дэмакратычнае рашэнне педагогаў уваходзіла ў моц пасля афіцыйнага зацверджання куратарам Пётрам Літэрмусам у Беластоку. Мікалай Блашчук ужо перад гэтымі выбарамі адчуваў, што ў школе і па-за ёю пачалася супраць яго паклёпніцкая кампанія, з боку якраз Грамадзянскага камітэта ў Мілейчыцах, галоўным завадатарам якога трэба лічыць Ц. Акунеўскага, колішняга І сакратара гарадскога камітэта ПАРП у Сямяцічах, а зараз — заядлага прыхільніка салідарніцкіх перамен у Мілейчыцах. Раней ужо была спроба прагаласаваць вотум недаверу дырэктару на пасяджэнні Педагагічнай рады. Вотум не прайшло. Тады ў Кураторыю быў накіраваны данос на дырэктара, падпісаны сфальшаваным подпісам. Даносчык ставіў М. Блашчуку ў закід тое, што ён некампетэнтны, неадпаведна паводзіць сябе, спявае ў школе няпольскія песні і г.д. Візітатар, які разгледзеў гэты данос, закідаў не пацвердзіў. А настаўнікі ў выбарах 20 чэрвеня свой давер дырэктару выказалі...

Згаданы ўжо артыкул К. Савіцкага ў „справу“ Мікалая Блашчука ўнёс новы элемент: у школе, быццам, шырыцца антыдзяржаўны настрой (дзеці спяваюць антыпольскія пасквілі, дырэктар не рэагуе). Таксама данос, толькі што публічны ўжо...

На вакацыях справа з пасадай дырэктара школы ў Мілейчыцах павісла ў нявырашанасці. Куратар Пётр Літэрмус, праўда, у Мілейчыцах быў, але на пасяджэнні Грамадзянскага камітэта (магчыма, што тады ўжо гэта была структура „Салідарнасці“, я тут не ўпэўнены). У школу да дырэктара Блашчука пан кура-

Ходзячы па хатнім ачагу спадарства Бартулёў, я заўважыла, што ў кожным куточку найменшая дэталь, нават дробязь, была прадумана, дапасавана і выпешчана дбалай рукой гаспадароў. Усюды сталі надзвычайнай прыгажосці, але штучныя кветкі. Я здзівілася, бо ў нас яны не ў модзе. Жывыя, аказваецца, тут надта дарагія: адна гваздзіка каштуе два долары, а ружа нават і чатыры. Для свайго ўжытку сярэдні амерыканец прывыкшы купляць наогул штучныя.

Па „хатцы" Бартулёў можна хадзіць гадзінамі і аглядаць яе як твор мастацтва. Відаць, яна з узростам (як добрае віно) набірае вартасці, бо ўжо ёй каля пяцідзесяці гадоў.

З кухні выйшлі на тэрасу. Пасля хатняга халадку (кліматызацыя) абліло нью-йоркскай вераснёвай гарачынёю. Ціха. Праляцела адзінокая машына, але і яе амаль не было чуваць, бо тэраса знаходзіцца ззаду дома. Навокал — зялёны траўнік, кусты і дрэвы. Трашчаць толькі цвыркуны.

Я ведала, што ў гэтым доме Бартулі жывуць утраіх з сынам Антонам (бо старэйшая дачка Аня мае свой дом у нью-йоркскім раёне Квінс). Мне гаварылі, што іхны дом заўсёды адкрыты для гасцей і мала калі бывае так, што ніхто, апрача гаспадароў, тут не жыве. І цяпер я спадзявалася застаць у іх сп. Міхалюкоў з Лондана. Якраз, калі я званіла перад выездам з Беластока ў Нью-Йорк, старшыня Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі Ян Міхалюк з малжонкай Галенай затрымаліся ў гэтай гасціннай віле. Аднак жа паспелі ўжо выехаць на з'езд у Клійленд. Затое было ўжо двое іншых гасцей, з Мінска, запрошаных Данчыкам.

Бедны Данчык! Калі ён быў на Беларусі, дык завёў столькі сардэчных знаёмстваў і столькі людзей прасілася, каб ён іх выпісаў у Амерыку (а нават з членамі сям'і ці з сяброўкамі), што не ўсе пасля змясціліся ў надта гасціннай, але ж усяго трохпакаёвай камунальнай кватэры Андрусішыных, і давялося „раздаваць" гасцей. Падратавала Рая Станкевіч, а таксама Бартулі...



**У гасцях у сп. Бартулёў (справа): Генадзь Бураўкін (старшыня Беларускай місіі пры ААН), Рая Станкевіч (біёлаг) і Янка Запруднік (журналіст, рэдактар „Беларуса").**



**Я — Антон.**

...Я якраз разглядалася па вялікай Верынай кухні, калі ўвайшоў двухметровы хлапец 24 год, белакуры і з блакітнымі вачыма, і сказаў: „Я — Антон!".

Я працягнула яму руку.

*(Працяг будзе)*

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

---

тар заглянуў на хвілю, ніякай гутаркі пра лёс дырэктаравання ў мілейчыцкай школе не было.

29 жніўня куратар Пётр Літэрмус склікаў нараду дырэктароў школ з Беласточчыны. Паехаў і М. Блашчук. — А вы тут чаго? — прывітаў М. Блашчука куратар. — Вы ўжо не з'яўляецеся дырэктарам. І Мікалаю Блашчуку ўручылі паперыну з датаю 15 жніўня, з якой ён даведаўся, што куратар не намерваецца назначыць яго дырэктарам, нягледзячы на дэмакратычна выказаную волю мілейчыцкіх настаўнікаў.

Паўтара месяца школа заставалася без намінаванага дырэктара. Яго абавязкі фармальна пераняў школьны інспектар. У школе шмат галасавалі ў гэтым перыядзе. Не прайшла кандыдатура М. Цеслік (яна — актыўная дзяячка Грамадзянскага камітэта, „Салідарнасці"), прайшлі кандыдатуры двух іншых настаўніц на пасаду дырэктара, але іх, у сваю чаргу, не акцэптаваў П. Літэрмус. **Інакш кажучы, мы за дэмакратыю, але калі гэта дэмакратыя не адпавядае нашаму густу, то мы супраць яе.** Урэшце, з паловы кастрычніка намінацыю куратара на пасаду дырэктара атрымала настаўніца са школы ў Нурцы.

Вось, мабыць, і ўсё. Уся гэтая валтузня папсавала добрыя адносіны між настаўнікамі ў школе, казаў мне М. Блашчук. Адчуваю, што людзі напалоханыя. Пачынаюць ставіцца адзін да другога з падазронасцю. Каб не сказаць чаго лішняга...

А якая ж прычына гэтага ўсяго? Чаму куратар не захацеў вас зацвердзіць дырэктарам? Такія пытанні я паставіў Мікалаю Блашчуку.

Адкуль мне ведаць? Я не дастаў аніякага разумнага тлумачэння. Шмат думаў пра гэта. Ці змагаліся са мною, як з наменклатурай? Я ж ніколі не быў у партыі. Мая жонка ў пачатку васьмідзесятых была ў „Салідарнасці", яна адзіная ў гміне не падпісала дэкларацыі, што адракаецца ад яе. Праз гэта нейкі час заставалася без працы. Ніхто не чапляўся да мяне з закідамі, што я некампетэнтны. Я маю 27 гадоў настаўніцкай практыкі, 4 гады быў дырэктарам, выбраным дэмакратычна, а не па „партыйнай лініі".

А таму, мабыць, падумалася мне, што зараз, калі салідарнікі прыйшлі да ўлады, М. Блашчук не апынуўся ў той кампаніі, што трэба. Гэта значыць, не ў Грамадзянскім камітэце... А значыць, паводле цяперашніх мерак палітычнага жыцця, не хацеў дэмакратызавацца...

Мне здаецца, не трэба надта здзіўляцца, што на Беласточчыне падзел паміж салідарніцкай і не-салідарніцкай „кампаніямі" адпавядае амаль дакладна нацыянальнаму падзелу палякі — беларусы... Беларусы ніколі не думалі пра сябе (магчыма, што яшчэ не дадумаліся) як пра суб'ект у палітычным жыцці. Заўсёды схіляліся да тых сілаў, якія прынамсі ў сацыяльным плане не неслі ім пагрозу дэградацыі да ніжэйшай катэгорыі грамадзян. Тое, што ў камунальных выбарах галасавалі наогул на кандыдатаў старой „наменклатуры", нельга, па-мойму, інтэрпрэтаваць у духу, маўляў, татальнага беларускага „скамунізавання"... Носьбіты новых ідэй — салідарнікі — на гмінным узроўні тыя ж самыя „камуністы" ў духу і метадах дзеяння, толькі што штандары сабе памянялі... Беларус — чалавек даволі кансерватыўны, але паасвойму і разважлівы. Лепш яму ўжо прагаласаваць за старых камуністаў, якія не перабеглі пад крыло „Салідарнасці", чымсьці за тых, што туды паспелі. Прыклад выбараў у Мілейчыцах — не адзіны таму доказ на Беласточчыне... А прыклад з лёсам Мікалая Блашчука — доказ таго, што новая сіла праводзіць дэмакратызацыю сілаю... На ахвярнік такой „дэмакратызацыі" трапляюць і тыя, якім не хочацца несці ні старыя, ні новы штандар.

**Ян Максімюк**




**(Працяг са стар. 5)**

**зваленнем з бальшавіцкага ярма і верылі ў аб'яднанне ўсіх беларускіх зямель пад польскай уладай.**

**Фактам з'яўляецца тое, што пачаткова энтузіязм прыгас і змяніўся ў непрыхільнасць. Урэшце пераўтварыўся ў нянавісць да ўсяго, што польскае. Несумненна, тыя разыходжанні, якія характарызавалі польска-беларускія адносіны ў 1919—1920 гадах, мелі ўплыў на пазнейшыя польска-беларускія адносіны. Яны былі прычынай таго, што антыпольская агітацыя на тэрыторыях, прызнаных Польшчы, як і дзейнасць антыдзяржаўных партый, знайшлі тысячы прыхільнікаў, і таго, што антыпольскія настроі з'яўляюцца ў істоце настроямі большасці ў беларускім насельніцтве.**

*(Працяг будзе)*

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

### БАБКА ТАХВІЛЯ

— Даволі добра мне жывецца, панства дапамагае. Ці многа ўжо старому трэба?.. Абы крыху перакусіць, абы ў целе дух трымаўся. На мяса зубы ўжо застарыя. Пратэза, праўда, е, але сам рот так ужо зжаваўся, што штучныя зубкі сталі завелькі. Хіба, што толькі да труны пад падушачку хай уложаць — чаго маюць зубы аддзельна па свеце валяцца, калі мне будзе пара ў пясок?..

Нахадзіўся чалавек па свеце за сваё жыццё. Натаптаўся. Не адны чаравікі здзёр і калошы, гумоўцы, валенкі... Калісь то самі валенкі валілі, цяпер купныя — не такія... Снегу з вачамі, ледзьве выкапаешся, але ў ногі цёпла! Ды і ногі цяпер не тыя, што я пра валенкі! Цяпер, калі б чалавек малады быў, то ніякімі аўтобусамі нікуды не дабіраўся б — што прабегчы тых пару кіламетраў, чаго грошы выдаваць? А то самахода купляе, смуродзіць паветра, гатоў нават за патрэбай ехаць на машыне! Але кожды — пан, і панаваць хоча перад людскімі вачыма. А чым вялікшы пан — тым менш ходзіць, і жывот у яго ўсё большы і большы, настаяшчы, а калі ўжо няма як праз гэты жывот за рулём сядзець, то тады ў такога пана ўжо службовы кіроўца, а пан ужо на заднім сядзенні сядзіць, два месцы займае. Але што праўда, то праўда — жывот патрэбен, калі чалавек на высокай пасадзе. Адразу бачыш — які важны пан. Калі б і захацелі яго адтуль выкінуць, з-за гэтага стала, то цяжка — важыць жа нямала! А ў каго жывот вялікі, у таго і голас найчасцей адпаведны. Колькі разоў мне прыходзілася стаяць перад такімі жыватамі! І да вайны, і пасля. Але калі нават ён на цябе і накрычыць, то ведаеш, што ты сам высока дайшоў! Голас такі грамаўладны! Але цяпер нарабілася малых панкоў. Малыя ў іх самаходзікі, але ўсё ж кажды жывоціка наперад выпіхае. Не тыя паны, што калісь! Цяпер, пакуль дойдзеш да самага важнага, то пападрыпаеш ад століка да століка ўсялякіх паненак, што то не маюць ні на чым сесці, ні чым дыхаць, бо мораць сябе голадам, каб у модную шматку ўлезці, і толькі што каву п'юць і дыхаюць дымам з папяросаў. Не кажу, што яны, гэтыя паненкі, непатрэбныя, не! Для ўлады патрэбная павага, і, каб уладу шанаваць і цаніць, трэба знаць сваё месца. Калі б ты адразу трапіў да найважнейшага пана, проста з вуліцы, то не шанаваў бы ні яго часу, ні ўвагі. Заходзіш і кажаш, чаго табе трэба, а ён адразу скажа „так" або „не", а можа шчэ й будзе тлумачыць?! А табе і так, калі сваё адчакаеш і находзішся, куды трэба, дадуць сваю паперку ўздоўж і ўпоперак у пячатках і подпісах, і ведаеш, што сказалі „так" або „не". Быццам твая паперка па якойсьці вяровачцы да самога Бога і назад вярнулася, а табе трэба было толькі значкі купіць!..

Сабе хату залатвяла. Адзін пакойчык цяпер маю, а мела калісь свой драўляны домік. Цяпер там блёкі будуюць. З мае хаткі не засталося ні трэскі, яблынькі выразалі... Праўда, дрэўцы былі ўжо павыкручваныя ад старасці, як і я сама, але вясною яшчэ зацвіталі...

**Запісала Міра Лукша**




Сэрцайка, людзі кажуць: не варта два разы ўваходзіць у тую ж самую раку. Але ніколі я не думала, што гэтая справа непасрэдна будзе датычыцца і мяне.

Некалькі гадоў таму назад мы з мужам развяліся. На гэты развод я згадзілася з вялікім болем, хаця ведала, што муж мой не заслугоўвае таго, каб я далей з ім жыла. Але ў нас жа былі дзеці, ды і я, што тут гаварыць, кахала яго. Пра яго здраду я доўга нічога не ведала. У нас з мужам цікавыя, так сказаць, свабодныя прафесіі. Часта сустракаліся з сябрамі, бывалі ў клубах, на прыёмах. Уяві сабе, Сэрцайка, што я так кахала яго, што не заўважыла ў яго паводзінах ніякай змены. Нават тады, калі мая блізкая сяброўка нарадзіла паненскае дзіця, мне не прыйшло ў галаву, што дзіця ягонае. Усе ведалі, што яно паненскае, але хто бацька гэтага дзіцяці — не было вядома нікому. Дзіцяці маёй сяброўкі было ўжо два гады, калі муж мой запатрабаваў ад мяне разводу. Я аслупянела. І тады ён расказаў мне, што ўжо тры гады жыве з маёй найлепшай сяброўкай.

Усё ўжо не мела сэнсу. Не памаглі ні мае просьбы, ні тое, што я абяцала яму ўсё дараваць, ні нават каструля баршчу, якую я выліла на галаву маёй саперніцы, калі зайшла да яе, каб выцягнуць адтуль свайго мужа.

Мы развяліся, але ў маёй душы засталася глыбокая трывалая рана. Яна аднаўлялася і крывавіла яшчэ больш кожны раз, калі я бачыла яго ці яе. Я старалася сябе супакойваць. Ну, што ж, яна маладзейшая, жыццё належыць да яе, можа з ёю яму будзе лепш. Аднак, кахала яго надалей без памяці.

Ад нейкага часу мой муж пачаў заходзіць да нас штораз часцей. Прыходзіў заўсёды, калі быў выпіўшы, тады наракаў на сваю сённяшнюю жонку, а часам нават плакаў. Я ведала, што гэта плача гарэлка, і не звяртала асаблівай увагі на яго перажыванні. Я марыла аб ім як аб мужчыне, хацелася верыць, што калісьці мы будзем з ім зноў разам і будзем кахаць адно другое, як у часы нашай маладосці.

Нядаўна я атрымала новую кватэру. Мой былы муж памагаў нам перабірацца. Перацягваў з рабочымі мэблю і відаць было, што ўсім сэрцам быў з намі. Нейкае цяпло нахлынула на мяне і я запрапанавала, каб ён застаўся ў нас нанач. З ахвотай згадзіўся. Сэрцайка, навошта мне гэта было?! Высветлілася, што нічога з таго, аб чым я марыла ў сваіх найбольш скрытых думках, не засталося. Быў гэта пажылы, прапіты мужчына, які разам з грашыма прапіў і сваю сексуальную патэнцыю. Ніякага задавальнення ад гэтай сустрэчы я не мела. Наадварот, застаўся аб ёй толькі непрыемны ўспамін. Але была яна мне ўсё ж патрэбная, бо вылечыла ад шматгадовага кахання, якое не давала мне спакою ні ўдзень, ні ўначы. І тады толькі я зразумела сэнс пагаворкі, што ў адну раку два разы не ўваходзяць. Ці згаджаешся ты з ёю, Сэрцайка?

**Веранiка**

Веранiка! Я думаю, што можна было б спрабаваць увайсці і другі раз у тую раку, калі б гэта мела нейкі сэнс. А з прапітага, як ты пішаш, мужчыны ні табе, як бачыш, ні дзецям карысці не будзе ніякай. Дык навошта ўваходзіць?! Падзякуй Богу за вызваленне ад нешчаслівага кахання! І... няхай сабе жыве на здароўе са сваёй новай жонкай!

**Сэрцайка**




### КЛЁЦКІ ПАЎФРАНЦУЗСКІЯ

На 15 дэкаў мукі трэба ўзяць 3 яйкі, 2 лыжкі масла, соль, 2 лыжкі вады.

Прасеяць муку, расцерці масла, дадаючы да яго па 1 яйку. Муку дадаць у пульхную масу, даліць 2 лыжкі вады і замясіць цеста, расціраючы яго драўлянай лыжкай. Рабіць з цеста прадаўгаватыя клёцкі, набіраючы іх памочанай у гарачую ваду лыжкай і кідаючы на пасолены кіпецень. Варыць пад крышкай на невялікім агні. Падаваць, дакладна адцадзіўшы.

Паўфранцузскія клёцкі падаюць да супоў (да булёну, памідорнага супу, грыбнога) або да другіх мясных страў. Можна таксама падаваць іх як самастойную страву, паліўшы грыбным ці памідорным соусам, або проста растопленым маслам, ды пасыпаўшы сцертым жоўтым сырам.

### ЗАПЯКАНКА З ПАНЦАКУ

На вялікую шклянку панцаку трэба ўзяць 1,5 лыжкі тлушчу, 15 дэкаў капчонага бачку, 15 дэкаў цыбулі, 6 лыжак пасечанай зялёнай пятрушкі, 1 яйка, 5 дэкаў сцертага жоўтага сыру, 3/4 шклянкі малака, соль, перац, 1 лыжачку цертай булкі.

Крупы перабраць, памыць на сіце пад кранам. Закіпяціць 3 шклянкі вады з лыжкай тлушчу і соллю. У кіпецень усыпаць крупу, зварыць яе. Бачок нарэзаць дробнымі палосачкамі, крыху падсмажыць на патэльні, выняць яго з тлушчу, а тлушч пакінуць на патэльні. Абабраць цыбулю, спаласнуць яе, нарэзаць дробнай костачкай і падтушыць на тлушчы. Яйка памыць, уліць у місачку і збіць венічкам, спалучыўшы з малаком.

Вогнетрывалы посуд змазаць тлушчам і пасыпаць цертай булкай. Звараную кашу перамяшаць з падсмажаным бачком, цыбуляй і пасечанай пятрушкай, дадаць палову сцертага сыру і палову мешаніны з малака і яйка. Дадаць па смаку солі і перцу, добра перамяшаць і вылажыць усё ў вогнетрывалы посуд. Выраўняць паверхню, заліць рэштай малака з яйкам, пасыпаць цертым сырам. Запячы, уставіўшы ў нагрэтую духоўку.

Запечаную страву выкладаць на талерку, абсыпаць навокал дробна пасечанай зялёнай цыбулькай, перамешанай з зялёнай пятрушкай. Падаваць з грыбным або памідорным соусам і нейкай салатай.

**Гаспадыня**




Астроне, рэдка сняцца мне сны, а вось у адну ноч прыснілася два, а на другую яшчэ адзін. Што гэта такое? Але па чарзе.

І сон. Знаходжуся на адпачынку ў кампінгавых доміках. Са мной мой прыяцель, мае дзеткі і маці прыяцеля (пастаянна жыве яна ў ЗША). У рэчаіснасці я з ёю ў злосці. Я і ў сне аб гэтым ведаю. І здзіўляе мяне тое, што яна так сардэчна адносіцца да мяне і да маіх дзетак. Бярэ на рукі маю дачушку, прытуляе яе, хаця тая байца і адварочваецца ад яе. Мой хлопец спачатку знаходзіцца разам з намі, а потым недзе знікае. Ужо і ноч і мы кладземся спаць. Апранутыя ў начныя кашулі. Раптоўна чуем нейкі страшэнны гук. Мы хутка зрываемся з ложкаў. Маці прыяцеля чулліва накрывае мяне кажухом (ён без рукавоў), кажа, што, хаця і лета, але на панадворку холадна. Выходзім з доміка пабачыць, што там дзеецца. Але нічога асаблівага няма. Да доміка вяртаецца мой хлопец, выглядае на падпіўшага, варочае нейкія скрынкі і ад таго такі гук і ломат. Буджуся.

Засынаю і сніцца сон наступны. Я са сваім прыяцелем на прыёме. Сталы застаўленыя, людзі танцуюць, як на нейкім вяселлі. Я вельмі прыгожа апранутая. Потым з гэтага прыёму зрабіўся „бурдэль". Няма сталоў, танцаў... Людзі групкамі сядзяць на зямлі, кахаюцца пары. А я сяджу на сходах. Абдымае мяне за шыю маладая незнаёмая жанчына. З другога боку сядзіць незнаёмы мужчына. Насупраць бачу нейкую бярлогу. Там пад пледам шамочацца некалькі асоб. У пэўным моманце з гэтай бярлогі высоўваецца чарнавалосая, расчахраная галава нейкай брыдкай старухі. Я гляджу на ўсё гэта. Там жа і мой прыяцель і ён ведае, што я гэта бачу, але не пераймаецца. Танцую адна. Неспадзявана прыходзіць да мяне мой хлапец.

У наступную ноч сніцца такое. Нібыта я збіраюся ісці на нейкую ўрачыстасць. І вось хачу апрануць сукенку. Але якую? Сваёй дачкі з камуніі. Вядома, яна цесная на мяне. Але я ўціскаюся ў яе насілу. Пры сукенцы ад камуніі, як заўсёды, ёсць торбачка. У ёй знаходзіліся нейкія фарбы. Я іх размазала і забрудзіла гэту сукенку. Але я нацягнула яе на сябе і бягу па вуліцы. Саромлюся людзей.

**Бася**

Бася! Чакаюць цябе бруды і плёткі. Вазьмі сябе ў рукі!

**Астрон**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Мікола Хведаровіч

* * *

Рассыпаў снежаньскі світанак
Срабрысты іней па зямлі.
Сняжку падкінуў ён на ганак,
Марозам лужыны зашклі́ў.

Аж гнуцца тонкія галінкі,
Такі быў ноччу снегапад.
На плечы белую касынку
Сабе накінуў ціхі сад.

Галіна Булыка

### ЗІМА

Без яркасці,
Без гучнага параду
Вясёлых фарбаў
Палатно зімы.
Тры колеры —
Касцяк счарнелы саду,
І белы снег,
І шэрыя дамы.

Тры колеры —
гармонія і згода.
Так манатонна і прывычна так.
Тры колеры,
у іх уся прырода.
Якім нязвычным
свет зімою стаў.

За абалонь блакітней
роўнасць лёду,
Празрысцей крона
за чарнюткі ствол.
У ціхай манатоннасці прыроды
Угадваю адценняў хараство.

## Ціхан Піскуной
## СКУЛЬПТАР



На ўроку фізкультуры шасцікласнікі пайшлі ў залу, а Язэп застаўся дзяжурным. Ён узяў крэйду і пачаў маляваць на дошцы настаўніка матэматыкі. Калі ўсе вярнуліся ў клас і глянул на дошку, поўзаць пачалі ад смеху.

— Ён! Бровы калматыя. Нос шырокі. А вочы якія!

„Варыянцік“, — было напісана ўнізе.

Назаўтра класны кіраўнік завёў „мастака“ ў настаўніцкую:

— Калі яшчэ раз паўторыцца такое, без бацькоў у школу не прыходзь!

— Няхай двоек не ставіць, — прабурчэў Язэп, выйшаўшы ў калідор. — Я вам не такое пакажу!

І паказаў... Вярнуўшыся дамоў, пачаў ляпіць класнага кіраўніка з гліны. Качак, зайчыкаў і вавёрак ён ужо рабіў на керамічнай фабрыцы, там, дзе працавала яго сястра. Ён там быў не адзін раз, і яна яго навучыла.

Партрэт ляпіць, вядома, было цяжэй, але Язэп узяўся не на жарты. І на трэці дзень прынёс сваё тварэнне ў клас.

— Гэта ж класны наш! — зашумелі хлапчукі, разглядаючы бюст у Язэпа на парце.

— Ён, дзяўчаткі! Толькі паглядзіце: худы, нос доўгі, вочы сядзяць глыбока, і барадаўка на шчацэ. Ён! — тарахцела Люда.

А тут і настаўнік зайшоў. Ён заўсёды наведваў клас да пачатку ўрокаў. Вучні селі за парты. Язэп сунуў бюст у парту і сядзіць ціхенька. Усе пераглядаюцца, усміхаюцца.

Класны кіраўнік таксама ўсміхаўся, потым спытаў жартаўліва:

— Нешта сёння вы ўсе, як імяніннікі, у вясёлым настроі. Мусіць, да ўрокаў добра падрыхтаваліся?

Ды клас чамусьці маўчыць. Ніхто ні слова. На Язэпа ўсе пазіраюць. І настаўнік заўважыў гэта. Не перастаючы ўсміхацца, павярнуўся да мастака.

— Ты насмяшыў клас? А, можа, яшчэ што прыдумаў?

— У яго ў парце нешта ёсць, — ледзь чутна прамовіла Надзя, ды настаўнік пачуў яе і перапытаў:

— Што? Што ты сказала?

— Ён у парту нешта схаваў, — паўтарыла яна больш выразна.

Класны кіраўнік накіраваўся да Язэпавай парты.

— Што ў цябе там? Пакажы! — Голас настаўніка гучаў патрабавальна. — Можа, дзіва нейкае прынёс?

Язэп, шчыльней прытуліўшыся да парты, трымаў аберуч сваё „дзіва“.

— Даставай, не бойся, — ужо лагодней папрасіў настаўнік.

— А нічога не будзе? — спытаў Язэп.

— Нічога. Паказвай, што ў цябе там...

Хлопчык глянуў у твар класнаму кіраўніку і, убачыўшы, як ён прыветна ўсміхаецца, выцягнуў з парты скульптурку.

Настаўнік асцярожна ўзяў яе і пайшоў да стала. Падняў на далоні левай рукі, агледзеў з усіх бакоў і, нібы нічога не здарылася, зноў усміхнуўся:

— Язік, ты ўзрадаваў мяне. Што гэта я, няма ніякага сумнення. У цябе залатыя рукі, хлопча. З цябе выйдзе мастак. Але скажы, ты сам зрабіў такую добрую скульптуру, ніхто не дапамагаў?

Язік маўчаў.

— Язік, ты ж гаварыў нам, што сам. Прызнавайся, — падбадзёрвалі вучні.

— Калі ты зрабіў, скажы. Ад такой работы адмаўляцца не варта, — падахвочваў класны кіраўнік. — За бюст табе вялікае дзякуй! Ну, гавары: ты сапраўды сам зрабіў?

— Са-ам, — працягнуў Язэп.

— Малайчына, — задаволена сказаў настаўнік. — Чаму ты адразу не прызнаўся? Столькі часу змарнавалі!

— Я баяўся, каб са школы не прагналі. Я не буду больш. Вы мне прабачце.

— Калі ласка. Але за такі бюст, хоць у ім і не ўсё, як трэба, я табе толькі ўдзячны. Такіх людзей я люблю, — гаварыў класны кіраўнік, разглядаючы скульптуру. — Не ведаю, на што ты здатны. А цяпер у мяне да цябе просьба: падары мне гэты бюст. І яшчэ — запрашаю да сябе дадому.

* * *

Тое, што Язэп убачыў на кватэры класнага кіраўніка, моцна яго ўразіла. „Чаго тут толькі няма!“ — разважаў хлопчык, разглядаючы на паліцах бюсты, статуэткі, зуброў, аленяў, казуль і яшчэ нейкіх жывёлін. Былі сярод іх і ўжо гатовыя вырабы, і толькі-толькі злепленыя. Сохлі.

— Ну як? Падабаецца?

(Працяг на стар. 10)

Уладзімір Мацвеенка

## ЗАГАДКІ

### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

21

Яны прыходзяць тройчы ў год
Да школьнага двара,
Каб адпачыла ад турбот
Вучэбных дзетвара.

22

У бары, у бары
Таўкуць мак званары.
Хто яны?
І што за мак?
Не стаўкуць яго ніяк.

23

Гляньце, гляньце:
З кожнай кветкі
Вырас церам на двару.
Ён без вокнаў, без дзвярэй,
А ў ім чорненькія дзеткі.

24

Ён у самы сонцапёк
Падстаўляе сонцу бок.
Колерам зеленаваты,
У кашульцы паласатай.

25

Для Святланы і для Лёдзі
Маці рве на агародзе
Усім знаёмую расліну —
І ў ёй многа караціну.
— Наце, — кажа, — ешце, дочкі,
Будуць добра бачыць вочкі.

**Адказы — ў наступным нумары.**

Адказы на загадкі з папярэдняга нумара: 16. Заяц. 17. Ластаўка. 18. Жаўрук. 19. Пчала, мёд. 20. Сланечнік.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




Дзвюма лініямі падзялі на тры часткі так цыферблат гадзінніка, каб у кожнай частцы сума лікаў складала 26.

## Вясёлы куточак

* * *

**Доктар пытаецца ў дзяўчынкі:**

**— Якая ў цябе тэмпература?**
**— Сорак чатыры.**
**— Як сорак чатыры?**

**— Мама казала, што ў мяне тэмпература трыццаць восем і шэсць.**

* * *

**Настаўнік: — Дык што знаходзіцца ў сярэдзіне кветкі?**
**Вучань: — Пчала.**

## Паглыбляй свае веды

### БАЛЯЦЬ МЫШЦЫ

Чаму заўсёды пасля ўрокаў гімнастыкі ў некаторых дзяцей баляць мышцы рук, ног і шыі?“

Першая прычына такіх адчуванняў — гэта тое, што гімнастыка ў школе з'яўляецца адзіным фізічным заняткам, якія многія дзеці на працягу тыдня выконваюць. Тады арганізм кожны раз пасля гімнастыкі рэагуе так, быццам яны рабілі яе першы раз. Каб боляў не было, трэба штодзень выконваць гімнастычныя практыкаванні. Тады арганізм прызвычаіцца і не будзе рэагаваць болем кожны тыдзень нанава. Звычайна гэтыя болі перастаюць на чацверты-пяты дзень.

У час вельмі вялікага фізічнага высілку ў мышцах паяўляецца вялікая колькасць малочнай кіслаты. Гэта якраз можа быць прычынай боляў і змяншэння здольнасці да фізічнай працы. Ратунак на гэта — трэніроўка.

Іншай прычынай боляў пасля цяжкой працы ў спалучэнні з вялікім пацennем, можа быць недахоп некаторых мінеральных складнікаў ежы, якія выдзяляюцца з потам. Напрыклад, недахоп калію (потасу) ў клетках арганізму выклікае аслабленне сілы, хуткую змучанасць, можа нават выклікаць скурчы мышцаў. Лякарствам на гэта будзе сок з морквы або сама морква — вараная ці сырая. Шмат калію ёсць у супе з гародніны, у соку з цытрусаў, у памідорах і іншай гароднiне і садавіне.

Людзі, якія займаюцца рэгулярна спортам, шмат гадзін у дзень трэніруюцца, павінны памятаць піць дрожджы, запараныя гарачым малаком ці вадою (1 лыжачка на паўшклянкі). Вітаміны з групы В, якія знаходзяцца ў дрожджах, узмацняюць сілу мышцаў, а гэта паляпшае здольнасць да фізічнага высілку.

Калі ж болі мышцаў пасля рэгулярных заняткаў гімнастыкай не мінаюць, трэба абавязкова звярнуцца па параду да лекара, бо магчыма тады, што болі вынікаюць з важных прычын — скрыўлення пазваночніка, плоскіх ступняў ці іншага.

**З парад доктара М. Кшэсьняка**

## Легенды нашай зямлі

### ЯК ЧОРТА ВЫГАНЯЛІ

Было гэта, можа, у Дашах, а можа, і не ў Дашах, хто яго ведае.

Ішоў аднойчы чалавек з вяселля, ды ішоў падхмелены, а існі яму выпала якраз праз могільнік. На могільніку тым свежую яму выкапалі, дык п'яны чалавек у гэтую яму і ўваліўся.

Сядзіць ён у яме ды чуе: у кутку нешта варушыцца. Спачатку спужаўся, а потым: мац, мац — бачыць, а гэта казёл, ды не які чужы, а — ягоны.

І так сядзяць у яме казёл і гаспадар. Сядзелі мо гадзіну, а мо і болей, аж чуе гаспадар: нехта тупае.

— Чалавеча добры! — крычыць ён. — Дапамажы мне вылезці з гэтай ямы.

Прахожы знайшоў недзе кавалак вяроўкі і ўзяўся выцягваць п'янага. А п'яны думае: „Выцягне мяне, дык казёл застанецца ў яме. Яшчэ здохне да раніцы. Падам яму перш казла, а потым сам вылезу“. І, нічога не кажучы, прывязаў казла да вяроўкі.

Цягне чалавек вяроўку, але, калі ўбачыў, што гэта казёл, спужаўся страшэнна, піхнуў казла назад у яму, а сам пабег у вёску. У вёсцы расказаў, што бачыў на могільніку чорта ў постаці казла, які гаварыў да яго чалавечым голасам.

Сабраліся людзі раніцаю ў працэсію, узялі з сабою бацюшку ды пайшлі на могільнік выганяць чорта. А чалавек, які сядзеў у яме, паспеў за гэты час з яе выкараскацца. Ідзе ён ды бачыць, што насустрач працэсія валіць.

— Куды вы, людзі, ідзяце? — пытае.

— На могільнік, з ямы чорта выганяць, — адказваюць яму.

— Які вам чорт, гэта ж я быў, — кажа чалавек.

Думаеце, яму паверылі? Яшчэ чалавека гэтага дурнем назвалі.

## Ціхан Піскуноў
## СКУЛЬПТАР



(Працяг са стар. 9)

— У вас усё добра зроблена. А мая скульптура нічога не вартая. Аддайце мне яе назад, — папрасіў Язэп.

— Ну што ты! Я дапамагу табе, і ты давядзеш яе да поўнага падабенства. А зараз, калі ласка, хадзем са мною, падсілкуемся крыху.

Да самага вечара працаваў Язэп разам з настаўнікам, які сядзеў на табурэтцы ў патрэбнай позе і гаварыў:

— Ты вочы мае правільна зрабіў? Прыкмячай. Скулы, падбародак і нос акурат як у мяне. А барадаўка ў цябе не там. Перамяшчай яе.

Ох, і памучыўся ён з гэтай барадаўкай! То вышэй, то ніжэй прылепіць. Пакуль настаўнік не дапамог.

— Табе, як бачыш, геаметрыю таксама трэба ведаць, — заўважыў ён. — Што-небудзь размяркуеш несіметрычна, і работа прапала.

Два дні працаваў яшчэ Язэп над бюстам. Скроб, маршчынкі рабіў, прыглядаўся — і зноў папраўляў. На трэці дзень скульптура была даведзена да поўнага падабенства.

— Цяпер, — сказаў настаўнік, — такую работу не сорам і на выстаўку.

## Пазнаёмімся

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, с. Красное, зав Карбышэва, 3, кв. 21. Багдановіч Свеце (8 клас).

* * *

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Техническая, 14, кв. 1. Лена Селезнёва (7 клас).

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Ці ведаеш, якія птушкі прыляцелі на гэту кармушку? Пазнай іх і размалюй адпаведна. Дарэчы, ці не забыліся вы зрабіць птушкам кармушкі? Памятайце пра нашых сяброў, дапамажыце ім перазімаваць у нас.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1. „Зорка“.

# МАЛАЯ КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 8) прасторавы аптычны прыбор для разглядвання прадметаў, якіх нельга ўбачыць простым вокам, 9) бессвядомасць, мімавольнасць.

**Уніз:** 1) шчыт для экспанатаў, 2) металічная рашотка на вокнах, 3) спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца, 4) вечназялёнае хвойнае дрэва, 5) барацьбіт за вызваленне неграў у ЗША, адзін з лідэраў абаліцыяніцкага руху, 6) мужчынскае імя, 7) частка шкілета.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку з № 44. Упоперак:** галава, пражка, роспач, навіна, кашаль, страха, пастка, тырада, латынь, частка, нянька, спінка, рысора, лянота, Вальынь. **Уніз:** Галіна, варона, прачка, каваль, віхура, шашыст, страла, Хатынь, падача, картка, тытунь, Сталін, няволя, карыта, справа, камень.

Кніжную ўзнагароду выйграў Аляксандр Дабчынскі з Бацютаў.



### ПОШТА „КРЫЖАВАНКІ"

**Рыгор Пацэвіч, Беласток:** „У мяне да крыжаванкі з № 32 такое пытанне: з якой сеткі і куды можна ўлажыць аскета? Аскет — гэта вельмі ўстрыманы чалавек, які пазбягае пацех жыцця, посціць для дасягнення маральнай дасканаласці. Гэта не рыба і не рак".

**Паважаныя аматары крыжаванак!** Слова **крыжаванка** абазначае, што ў ёй словы крыжуюцца па-рознаму, не толькі ў клетачках, але і ў акрэсленнях. Змяшчаючы ў „Ніўцы" крыжаванкі, хочам таксама гуляць, жартаваць. Аказваецца, што беларуская мова настолькі цікавая, што можна нават аскета ўлажыць з сеткі (не ў сетку, а з сеткі). Як? Вельмі проста: трэба слова **сетка** разлажыць па літарах і з іх улажыць слова **аскет**, а нават **секта**. Такіх выпадкаў у беларускіх крыжаванках можна знайсці больш. Тады гульня нападзеху з беларускімі словамі, а многа цікавага даведаемся.

„ядань"





*— Васіль, што ты, уласна кажучы, заказваў у святога Мікалая?*

*Мал. Казімеж Мазалеўскі.*

# Лесвіца

Падымаючыся па лесвіцы дадому, Пятроў налічыў восем ступенек; спускаючыся па лесвіцы ўніз, налічыў толькі сем.

„Непарадак", — падумаў Пятроў і звярнуўся да дворніка.

— Такое не можа быць, — сказаў дворнік і падняўся на восем ступенек уверх.

— А цяпер уніз, — сказаў Пятроў.

— Раз, — лічыць дворнік, — два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем... Што такое? Дзе ж восьмая ступенька?.. „Непарадак", — падумаў ён і звярнуўся да міліцыянера.

— Зараз разбярэмся, — сказаў міліцыянер. — Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем. — І ўвайшоў на лесвіцу.

— А цяпер уніз, — сказаў дворнік.

— Раз, — лічыць міліцыянер, — два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем... Што за непарадак? Дзе восьмая ступенька?

Паклікалі галоўнага інжынера-будаўніка.

— Не можа быць, — сказаў інжынер-будаўнік. Тут, напэўна, вы робіце нейкую памылку. — І ўвайшоў на восем ступенек уверх.

— А цяпер уніз, — сказаў міліцыянер.

— Раз, — лічыць ступенькі інжынер-будаўнік, — два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем... Што такое? — сказаў ён.

— Гэта ў нас у праекце не прадбачана.

Вырашылі зусім ліквідаваць лесвіцу.

Цяпер, калі Пятроў ідзе дадому, ён падскоквае на восем ступенек уверх, а калі выходзіць з дому, скача на сем ступенек уніз.

**Алег Грыгор'еў**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| **3539. Марыя Данілецкая (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3540. Ольга Блізнюк (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3541. Анастасія Шпаковіч (Гайнаўка)** | — | **50000 зл.** |
| **3542. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава)** | — | **100000 зл.** |
| **3543. Гандлёва-вытворчае прадпрыемства „Біяполь" у Варшаве** | — | **5000000 зл.** |
| **3544. Рыгор Кішкель (Легніца)** | — | **50000 зл.** |
| **3545. Ілірык Вараўка (Згажэлец)** | — | **200000 зл.** |
| **3546. Аліна Койла (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3547. Ірына Мікуліч (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3548. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |
| **3549. Анастасія Майсеня (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |
| **3550. Аляксей Максімюк (Ляўкова Новае)** | — | **5000 зл.** |
| **3551. Фёдар Казлоўскі (Ляўкова Новае)** | — | **5000 зл.** |
| **3552. Люба Федарук (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3553. Лявон Федарук (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3554. Аляксандр Мрачынскі (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3555. Мікалай Леанчук (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3556. Васіль Кот (Дубіны)** | — | **10000 зл.** |
| **3557. Аляксандр Бандарук (Гайнаўка)** | — | **2500 зл.** |
| **3558. Мікалай Мікалаюк (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |
| **3559. Пятро Гвай (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |
| **3560. Славамір Іванюк (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3561. Аляксандр Ражко (Гайнаўка)** | — | **10000 зл.** |
| **3562. Ніна Прыступюк (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |
| **3563. Ірына Серафін (Гайнаўка)** | — | **3000 зл.** |
| **3564. Галіна Пагаецкая (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

### З АНГЛІЙСКАГА ГУМАРУ

Лорд пытае свайго лакея:

— Джэймс, што за шум на вуліцы?

— Дэманстрацыя прастытутак, сэр.

— А чаго яны патрабуюць?

— Каб ім больш плацілі, сэр.

— А што, ім сапраўды мала плоцяць?

— Не, сэр.

— Дык чаму яны нездаволены?

— ...людзі, сэр.





Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар). Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149

tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu namiejsce zamieszkania.

2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.

3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.

4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.

5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie. W 1991 r. cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.

6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — grudzień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1729/90